# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## КОЛЬКІ НЕ ГАВАРЫ ХАЛВА...

***"Шушкевічаў і пазьняког ужо няма. Яны фізічна ёсьць, але як палітыкі ці, скажам, людзі, якія заслугоўваюць увагі, яны не існуюць".***

**Аляксандр Лукашэнка, праграма "Дні", 18 траўня, ГРТ.**

Дык што, Пазьняк больш не існуе? Але калі ж гэта Рыгоравіч яго пахаваў? Гэта ведаць трэба, каб хоць 40 дзён справіць належным чынам. Калі верыць "Свободным новостям плюс", датай пахаваньня Пазьняка трэба лічыць 26 красавіка. Столькі памылак нарабіў ды яшчэ і зьнік. А можа наўмысна яго кадэбісты ў чорнай "Волзе" за мяжу вывезьлі, каб пахаваць як палітыка? На думку газеты, Пазьняк павінен быў сядзець разам з Хадыкам і Сіўчыкам і перарастаць з жывога апостала нацыі ў ня надта жывога, каб узняць свой палітычны імідж. Іншая справа, што гэты імідж яму ня надта спатрэбіўся б, бо наўрад ці выйшаў бы ён жывы з засьценкаў беларускай дэмакратыі. Сёньня нашыя заклятыя сябры прадказваюць немінучае падзеньне рэйтынгу Пазьняка ў сувязі з яго ад'ездам. Дакладней, у сувязі з палітычнай эміграцыяй. Але ці маюць рацыю гэтыя "глоба-журналісты"?

Імідж Пазьняка непарыўна зьвязаны з іміджам Фронту, як і імідж Фронту ў многім вызначае Пазьняк. Апошнія месяцы мы назіралі няўхільны рост рэйтынгу БНФ. І назіралі не па зьвестках сумніўных апытаньняў, а ў калонах, пікетах, на мітынгах. Мне могуць запярэчыць, што там былі далёка ня ўсе фронтаўцы. Я згодзен. Усе фронтаўцы не змаглі прыйсьці і прыехаць. Замест іх прыйшлі людзі, якія хай сабе і не належаць да Фронту, але падтрымліваюць тыя ж ідэі, маюць тых жа сяброў і тых жа ворагаў. А гэта яшчэ лепш.

Арышт кіраўнікоў Фронту, іх галадоўка вынеслі абрывіятуру БНФ на першыя старонкі нават лукашэнкаўскай прэсы. Тры тыдні Беларусь сачыла за станам здароўя Сіўчыка і Хадыкі. Прэса ня ўзгадвала Пазьняка, але ці страціў ён што-небудзь ад гэтага? Годныя і мужныя паводзіны кіраўнікоў Фронту, іх перамога над рэжымам значна ўзьнялі імідж БНФ, а разам і яго лідэра Зянона Пазьняка.

Пазьняк на свабодзе страшны для Лукашэнкі. Рыгоравічу хочацца раз і назаўжды забыць ненавіснага Зянона, ды не атрымліваецца. Беларусь коціцца ў прорву. Сацыяльны выбух набліжаецца. І колькі б раз не заказваў спадар прэзідэнт імшу па Пазьняку, нічога ад гэтага ня зьменіцца. У патрэбны час і БНФ, і Пазьняк будуць разам з народам.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## СТАЛІЕВІЧ НАВОДЗІЦЬ ПАРАДКІ

29 траўня ўпраўляючым справамі Ленінскага райвыканкаму Ігарам Сталіевічам Барсуковым гвалтоўна былі зьнятыя і забраныя фотастэнды, вывешаныя ў вокнах штаб-кватэры Гарадзенскай рады Беларускага народнага Фронту. Зроблена гэта па загаду старшыні выканкаму Барыса Казелкова, які сваім распараджэньнем прадпісаў, што "рекламу и наглядность в окнах здания (вул.Савецкая, 10) необходимо согласовывать".

Стэнды, дзе былі разьмешчаныя фотаздымкі падзей у Менску 24 сакавіка і 26 красавіка, узгадненьня ў раённай "вертыкалі" не прайшлі. Прычына адна: праўда вочы коле.

**Ул. інф.**

## САМЫ ЧАЛАВЕЧНЫ СКАЛЕЧЫЎ ЛЁСЫ ЯШЧЭ ДВУХ ЛЮДЗЕЙ

**23 траўня ў Лідзе, нарэшце, завяршыўся судовы працэс над Віктарам Федасевічам і Ігарам Струнеўскім, якія ў ноч з 7 на 8 верасьня 1995 года разьбілі кувалдай помнік Леніну ля Лідзкага чыгуначнага вакзала.**

Рабочы Лідзкай абутковай фабрыкі Віктар Федасевіч і былы настаўнік працы Першамайскай сярэдняй школы Ігар Струнеўскі абвінавачваліся па артыкулу 201 ч.2 (злоснае хуліганства з асаблівым цынізмам і выключнай дзёрзкасьцю) і 225 ч.2 (зьнішчэньне ці пашкоджаньне гісторыка-культурных каштоўнасьцей). Гэтае гістарычнае значэньне кавалка бетону ў выглядзе Ільіча бяз носа і было прычынай двух адкладанняў справы. Што каштоўнасьць гэтага зьлепка такая ж, як і прасла гнілога плоту, было відавочна ўсім, акрамя старшыні Дзяржаўнай інсьпекцыі па ахове нацыянальнай спадчыны спадара Бубноўскага, які з зайздроснай упартасьцю ў сваіх паперах на адрас суда даказваў, што хоць гэты помнік у сьпісе дзяржаўных помнікаў адсутнічае, але ўсё ж такім зьяўляецца, і будзе ў гэты сьпіс занесены. Не, спадар Бубноўскі, ужо ня будзе, бо засталася ад яго кучка друзу. А Вам, спадар Бубноўскі, ня блага было б зьвярнуць увагу на Лідзкі планетарый, з якога сарвалі мемарыяльную дошку па герою паўстаньня 1863 года Людвіку Нарбуту, ды на капліцу 19-га стагоддзя на Лідзкіх могілках, якую сплanavалі разабраць, прычым, без вялікай на тое патрэбы.

Федасевіч і Струнеўскі патлумачылі свой учынак тым, што правадыр усіх працоўных, аблуплены і бяз носа, абражаў іх эстэтычныя і нацыянальныя пачуцьці. Яны вырашылі дапамагчы ўладам адважыцца прыбраць яго. Тым ня менш, суд прызнаў у іх дзеяньнях асаблівы цынізм і выключную дзёрзкасьць і вынес вырак: Федасевічу - 2,5 гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на 2 гады, Струнеўскаму - 1,5 гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на год. Вось так, шаноўныя грамадзяне, прыбраць балвана з люднага месца - гэта цынізм, а ускладваць кветкі да помніка выradку, які адабраў жыцьці ў 20 мільёнаў чалавек пад час грамадзянскай вайны, які адкупляўся нашай Радзімай спачатку ад немцаў, а пасьля ад палякаў, які задушыў Беларускую Народную Рэспубліку, які стварыў сістэму ўлады, што зьнішчыла ўсю нацыянальную эліту беларусаў і ў выніку паставіла наш народ на грань зьнікненьня - гэта не цынізм, гэта норма. Гэта такая ж норма, як і вуліцы названыя імем Суворава. Гэта такая ж норма, як і ўсё антыбеларускае.

Суд скончаны. Самы чалавечны чалавек скалечыў лёсы яшчэ двух людзей, але эпоха ленінізму ў Лідзе мінаецца. У горадзе існуюць яшчэ два помнікі Леніну: адзін на цэнтральнай плошчы і адзін на тэрыторыі вайсковай часткі. Калі ня людзі, дык час прыбярэ іх.

**Станіслаў СУДНІК.**

## "СТО ЛЯТ!"

14 чэрвеня мінулага года ў Горадні адчынілася Генеральнае Консульства Рэспублікі Польшча.

Гадавіне гэтай урачыстай падзеі была прысьвечана сустрэча з журналістамі польскіх і беларускіх сродкаў масавай інфармацыі, якая адбылася ўчора ў консульстве. Інфармацыя аб сустрэчы - у бліжэйшым нумары "ПАГОНІ".

**Вітаўт РУДНІК.**

## ДВА МЕСЯЦЫ Ў ССР

**Калі 2 месяцы таму назад у Маскве была падпісана дамова аб утварэньні ССР, А.Лукашэнка абяцаў, што мы хутка адчуем вынікі. Не такі вялікі тэрмін, каб заўважыць гэтыя вынікі, але пачатак ужо пакладзены.**

На шчасьце, у эканоміцы вялікіх зьменаў не адбылося і жыцьцё людзей ня вельмі пагоршылася. Напрыклад, кошт хлеба павысіўся толькі на 200 рублёў, а малочных прадуктаў нават панізіўся на тую ж суму. Калі бензін АІ-93 падаражэў на 32% (танная расейская нафта, дзе ты?), дык АІ-76 - усяго на 18%.

Рэальны курс даляра ЗША вырас на 18%. Гэта адразу выклікала павышэньне коштаў на торжышчах. Зыходзячы з таго, што ўсе гандлёвыя аперацыі ўжо даўно адбываюцца з пераліакам на даляр, агульны рост цэнаў трэба чакаць у бліжэйшы час. Прэзідэнт за апошнія два месяцы неаднаразова выказваў сваю варожасьць да Захаду і асабліва да НАТА, але гэта не перашкодзіла фірме "Форд" падпісаць дамову аб пачатку вытворчасьці сваіх машын на Беларусі, што гаворыць аб сьмеласьці кіраўніцтва фірмы, або пра ня вельмі добры стан не спраў.

У адрозьненьні ад эканамічнай, палітычная сітуацыя зьмянілася значна больш. Беларусы паказалі, што яны годныя людзьмі звацца і проста так незалежнасьць сваёй краіны не аддадуць. Хаця масавыя акцыі пратэсту адбыліся толькі ў Менску, падтрымка салідарнасьці з дэманстрантамі і арыштаванымі пасьля мітынгаў адчувалася па ўсёй краіне. Увесь сьвет даведаўся, хто кіруе Беларусьсю. Падзеі ў Менску былі ў цэнтры ўвагі ўсіх замежных сродкаў інфармацыі.

Пасьля дэпартацыі кіраўнікоў "Салідарнасьці" пагоршыліся адносіны з Польшчай. Зараз МЗС абедзьвух краін абменьваюцца нотамі пратэсту. Апошнія апытаньні насельніцтва паказалі, што разам з беларусамі ў нас жыве яшчэ вельмі шмат савецкіх людзей. А савецкі чалавек - зьява даволі дзіўная. Ён, напрыклад, можа з сьлязьмі ў вачах глядзець фільм "Храбрае сэрца" і разам з усім цывілізаваным сьветам спачуваць сярэдневяковым шатландцам у іх барацьбе за незалежнасьць, і аднаchасова абурацца спачуваньнем сьвету чачэнцам, якія зараз гінуць за волю сваёй краіны. Савецкім людзям няма чаго рабіць у Савеце Эўропы, тым больш спадзявацца на міжнародныя крэдыты.

Затое беларускага прэзідэнта ўзнагародзілі царкоўным ордэнам за аб'яднаньне славян. (Праўда, потым аказалася, што ордэн не усім той, пра які паведамілі беларускія СМІ). Аднаchасова такую ўзнагароду атрымаў сербскі прэзідэнт. Ня дай Бог, дажыць нам да аб'яднаньня славян па сербскім варыянце! Міністр абароны Расеі ўжо заявіў: калі нашы суседзі увойдуць у НАТА, ён разьмесьціць на Беларусі свае войскі.

Як бачна, вынікі стварэньня ССР, хоць невялікія, але ўжо ёсьць. Наперадзе абавязкова будуць новыя вяршыні і новыя дасягненьні, бо будаваць "рынкавы сацыялізм" нам прыйдзецца яшчэ тры гады.

**Д.КІСЕЛЬ.**



„Урфін Джюс" і яго драўляныя салдаты
СУСВЕТНАЯ ГІСТОРЫЯ, БАНК БЕЛАРУСЬ

## "ЗГОДА" ХАЦЕЛА РАЗЛАДУ

**23 траўня Вярхоўны Савет разглядзеў пытаньне аб прызначэньні на пасаду членаў Канстытуцыйнага Суда. Парламенцкая фракцыя "Згода" пажадала разглядзець прапановы прэзідэнта А.Лукашэнкі аб рэфармаваньні Канстытуцыйнага Суда і ўнесьці адпаведныя зьмены ў Канстытуцыю Беларусі. Вярхоўны Савет адхіліў гэтую прапанову .Тады сябры фракцыі пакінулі залу паседжаньняў. Аднак кворум захаваўся, і парламент прыступіў да вылучэньня кандыдатаў.**

Сярод вылучэнцаў быў наш зямляк, загадчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы, доктар юрыдычных навук, прафесар сп.Мікола Сільчанка. Грамадзкасьці М.Сільчанка вядомы сваімі дэмакратычнымі поглядамі, высокім прафесіяналізмам.

Трэба нагадаць, што пад час першага прызначэньня і фармаваньня КС на пасаду члена КС вылучаўся яшчэ адзін супрацоўнік кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Гарадзенскага універсітэта сп.А.Марыскін. Ягоная кандыдатура не прайшла. У далейшым А.Марыскін заняў пасаду шэфа прававога ўпраўленьня адміністрацыі прэзідэнта краіны(а перад А.Марыскіным непрацяглы час гэтае ўпраўленьне ўзначальваў сп.І.Велента, дацэнт юрыдычнага факультэта універсітэта імя Я.Купалы).

Аднак вернемся ў залу паседжаньняў Вярхоўнага Савета. Рашэньне аб абраньні членаў КС было прынята 24 траўня, нягледзячы на працягненне фракцыі "Згода". Новымі суддзямі сталі А.Вашкевіч і М.Чумакоў, супрацоўнікі юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржуніверсітэту.

## ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА?

**Пасьля трохтыднёвай галадоўкі выпушчаны з-пад варты лідэры БНФ сп.Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык. Крымінальная справа супраць іх працягваецца расьследаваньнем. Застаюцца ў СІЗА паэт Славамір Адамовіч адзін з кіраўнікоў партыі аматараў піва Андрэй Рамашэўскі, а таксама сем грамадзянаў Украіны,частка з якіх праводзіць "сухую" галадоўку.**

Усе гэтыя справы, на мове сьледчых, адносяцца да так званых "гнілых", гіблых. Іх гіблась выходзіць ад цяжкасьці, па-першае, кваліфікацыі, па-другое, даказваньня.

Ніхто не сумняваецца, што лідэры БНФ не прызнаюць сябе вінаватымі. Наадварот, яны абавязкова ўзгадаюць шэраг вельмі істотных момантаў. Напрыклад: чаму менскія ўлады адвольна і беспадстаўна забаранілі мітынг, прысьвечаны 10-м угодкам Чарнобыльскай катастрофы; чаму пасьля супрацьзаконнай забароны ніхто не прызнаў вінаватых у парушэньнях канстытуцыйных правоў грамадзян да адказнасьці і не аднавіў парушаныя правы; чаму міліцыя ўводзіла ў зман кіраўнікоў "Чарнобыльскага шляху" аб нібыта адбыўшымся дазволе шэсьця; чаму міліцыя насуперак усім інструкцыям выстаўляла аўтамашыны проста пад ногі сабраўшымся; чаму міліцыя ўжывала зброю супраць жанчын, старых і падлеткаў; чаму зьбівала карэспандэнтаў; чаму хапалі ўсіх без разбору ледзьве не праз суткі пасьля заканчэньня мітынгу?

Больш за тое, у судзе і ў час яго абмеркаваньня будуць зададзеныя і такія пытаньні: чаму ніводнае права ня можа быць рэалізаванае, калі чалавек думае ня так, як А.Лукашэнка; чаму ніхто ў праваахоўных ворганах не бароніць правы людзей,якія штодзённа парушаюць уладай; чаму прэзідэнт прыняў сакрэтную дырэктыву не выконваць законы; чаму ягоныя "хлопцы" хапаюць на вуліцах Менску жыхароў Беларусі, як нейкіх гаіцян-ліберыйцаў?

Улада можа паспрабаваць зрабіць судовыя паседжаньні закрытымі. Аднак праўду не схаваеш. Падобныя палітычныя працэсы добра ўдаваліся Сталіну, Ягодзе, Яжову, Берыі, Андропаву. Каму не дае спакою іх нядобрай памяці слава?

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## КАМУНІСТЫ ЎСІХ РАСЕЙ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

З тыдзень таму я быў вельмі азадачаны, калі ўбачыў па расейскаму тэлебачаньню мітынг у Бранску пад час прыезду туды таварыша Зюганава паагітаваць за сябе перад прэзідэнцкімі выбарамі. Плошча Бранска была ўсьцяж расквечана лукашэнкаўскімі сьцягамі з рэдкім украпваньнем чырвоных. Ну, думаю, няўжо ў Бранску ўспомнілі свае беларускія карані? Але на справе ўсё аказалася больш празаічна. Гэта беларускія камуністы прыехалі ў Бранск, каб падтрымаць "таварыша па партыі". І прыехалі, як было відаць, ладным кагалам. Што ж, салідарнасьць для камуністаў - справа звыклая. Але, мабыць, справы ў Зюганава не такія ўжо бліскучыя, калі ён мусіць клікаць на дапамогу "братоў сваіх меншых".

**Станіслаў СУДНІК.**

СУМЕЖЖА

# КАЛІ МАЕЦЕ СУМЛЕНЬНЕ...

**Напярэдадні падпісаньня расейска-чачэнскага пагадненьня аб спыненьні вайны 18 траўня 1996 г. польская газета "Жэчпаспаліта" надрукавала інтэрв'ю свайго карэспандэнта Пятра Грахмальскага з Шамілём Басаевым, самым маладым генералам Чачэнскай Арміі, камандуючым Цэнтральным фронтам. Размова адбывалася на лініі фронту ў Дарго 30 сакавіка 1996 года. На наш погляд, гэты артыкул будзе цікавы і чытачам "ПАГОНІ".**

***- Ты ненавідзіш іх?***

- Яны сваіх забітых салдатаў пакідаюць на полі бою. Зьдзічэлыя сабакі аб'ядаюць да касьці іхныя трупы. А яны глядзяць на гэта з акопаў. Не паважаю іх. Гэта народ нявольнікаў. Нават памерці ня могуць з годнасьцю. Крычаць "мама", калі нашы хлопцы ідуць супраць іх на бой. Але калі адчуваюць беспакаранасьць, забіваюць бяз літасьці.

***- Калі мы размаўлялі першы раз, вайна толькі пачыналася. Ты быў упэўнены, што вы яе выйграеце. Ты і далей у гэта верыш?***

- Без фінансавай дапамогі Захаду Ельцын ужо даўно быў бы вымушаны шукаць з намі паразуменьня. Гэта не выпадкова, што вайна пачалася пасьля таго, як імперыя атрымала значную фінансавую пазыку, а потым дзеяньні ўвесь час узмацняліся як толькі гэтага паміраючага волата ажыўляла чарговая порцыя даляраў. Гэтак было вясной 1995 г., гэтак і цяпер. Але, нягледзячы на тое, што Захад не шкадуе грошай Ельцыну, мы і так пераможам. Бо на нашым баку маральная праўда.

***- ...У палітыцы толькі жывы мае рацыю.***

- Кожны чачэнец, забіты рускімі на гэтай зямлі, узмацняе яе асобнасьць, падкрэсьлівае, што гэта наша Айчына. Паміраюць вольныя, годныя. Мы можам пахаваць іх побач з бацькамі і дзядамі. Для мяне праўда маральная ўсё вырашае. Вайна - гэта ж забіваньне. Я гэта раблю амаль кожны дзень, але магу есьці гэтымі рукамі, падаваць далонь сыну. Таму што кроў не абцяжарвае маё сумленьне. Я гатовы да сьмерці, бо памру за свабоду маёй Бацькаўшчыны. А яны баяцца. Плачуць, калі на іх наступаем. Я разумею, што яны адчуваюць. Яны ведаюць, што іх жыцьцё для Крамля менш важнае, чым сабачая здыхата. Існуюць тут подла ў норах, выкапаных у зямлі, жабруюць у нашых кабет і дзяцей. Напіваюцца, а потым забіваюць нявінных людзей. Ганарацца сабой, ненавідзячы нас. У іх няма аніякай маральнай праўды. Яны, як бандыты, што ноччу напалі на дом, забілі дзяцей, бацькоў, а потым кажуць, што вымушаныя былі іх забіваць, бо тыя не хацелі даць ім грошы. Рускія ўжо прайгралі нам у маральным варыяньце.

***- Пяць тысяч вашых салдатаў, узброеных лёгкай зброяй, супраць 3,5-мільённай рускай арміі - прапорцыя, як адзін да сямісот. Шаміль, рэальна вы ня маеце ніякіх шанцаў.***

- Гэты алкаголік Грачоў абяцаў Ельцыну, што возьме Грозны за дзьве гадзіны. Мы баранілі горад два месяцы. Джахар, як мала хто іншы, ведае рэальную вартасьць расейскай арміі (размова адбывалася перад сьмерцю Прэзідэнта Дудаева - аўт.). Карупцыя, амаральнасьць, алкагалізм. Ён мне расказваў, як нават у больш элітарных паветраных частках пачалі напіваць вадкасьцю для тармазоў. Усе, пачынаючы ад Грачова і канчаючы Громавым, Міронавым, Хуранавым, зрабілі сабе вялізарныя грошы, гандлюючы зброяй налева. Яны ўцягваюць у гэты гандаль злачынныя карпарацыі ня толькі на абшарах былой Расеі, але і за яе межамі. Армія цяпер – найлепшы рынак. У Чачні тысячы рускіх салдатаў - наркаманы. Ты сам бачыў, адкуль маем зброю. Рускія каманьдзіры не прадаюць, хоць ведаюць, што мы будзем ёю забіваць іх салдатаў.

***- Але ж потым Грачоў узяў Грозны.***

- Забіўшы пры гэтым сорак тысячаў цывільных жыхароў. З іх палова былі рускія. Ты быў і бачыў. Бамбардзіравалі шпіталі, дзіцячыя садкі. Нават царкву, у якой схаваліся іх землякі, зраўнялі з зямлёй. А калі Джахар вырашыў паказаць сьвету, хто ў сапраўднасьці кантралюе сітуацыю ў краіне, за дзьве гадзіны 6 сакавіка гэтага года мы занялі Грозны.

***- Шаміль, вялікі сьвет палітыкі "прыгаварыў" вас у гэтай вайне да ролі ахвяраў.***

- Тым больш будзе шок, што сцэнар не атрымаўся. Расея - гэта волат на гліняных нагах. Мы цяпер расхісталі яго канструкцыю і няшмат ужо трэба, каб гэтае абсурднае стварэньне абвалілася. І тады ўвесь сьвет убачыць, што баяўся імперыі, якую перамог маленькі народ. Калі я быў малым, то старыя ў нас у Відэно казалі, што існуе прароцтва, нібыта Чачня зьнішчыць Расею. Я тады сьмяяўся з іх наіўнасьці гэтаксама, як ты сьмяешся цяпер. Найвялікшая краіна сьвету і павінна была б паддацца нам? Цяпер ведаю, што гэтаксама як Афганістан стаў цьвіком у труну Савецкага Саюзу, так і гэтая вайна будзе штуршком, якога ня вытрымае канструкцыя СНД.

***- Тым часам адбываецца адваротны працэс. Расея аднаўляе сваю імперыю. Амаль увесь Каўказ без Чачні ізноў у яе руках.***

- Гэта толькі паказвае на тое, што Расея прайграла свой чарговы шанц - ня здолела знайсьці для свайго існаваньня іншага абгрунтаваньня, як толькі экспансію і сілу. Сутнасьцю гэтай імперыі была заўсёды тэрытарыяльная агрэсія і захоп. Карамзін некалі сказаў цару Аляксандру III: "Усё альбо нічога". Да гэтага часу наш дзяржаўны прынцып быў такі: "Ані пядзі зямлі ні ворагу, ні прыяцелю". Захапілі велізарныя абшары сьвету і ператварылі іх у калоніі... А калі мы цяпер вярнулі незалежнасьць, то імперыя, якая пасьля распаду СССР хацела паказацца ў вачах сьвету іншай, паказвае сваё сапраўднае аблічча. Нічога не зьмянілася па сутнасьці.

П'яны цар Брэжнеў ненашмат розьніцца ад п'янага цара Ельцына.

***- "Аргументы и факты" у першую гадавіну вайны надрукавалі тэкст Мікалая Ганчара (дэпутат Расейскай Думы - перакл.), у якім ён кажа адкрыта: "Застаўся адзін бясспрэчны аргумент: адзінства Расеі -панацэя для нас абсалютная. Тут ужо ня лічацца ахвяры".***

- Вайна з намі - сапраўды барацьба за ўваскрашэньне ідэалогіі русізму, якая кажа, што імперыя ёсьць абсалютная ісьціна. Гэтае пакаленьне, што якраз цяпер даходзіць да ўлады, не разумее, чаму распаўся СССР. Увесь час ім казалі, што Расея непераможная. У 1977 г. яны ў сваёй Канстытуцыі запісалі, што ўзьнік ужо адзін савецкі народ. Першаснае, аднак, месца ў ім выпала найлепшай на іх думку нацыі - расейцам. Панавалі амаль над паловай Эўразіі. І раптам, без прайгранай бітвы, без ваеннага паражэньня імперыя развалілася. Тады яскрава выявіўся яе каланіяльны характар. Расейцы да сённяшняга дня верадь, што выконвалі цывілізацыйную місію. Неўзабаве выявілася, што распад прагрэсіўе далей, ужо ў самой Расейскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспубліцы - найвялікшай сьвятасьці. Мы паказалі сьвету, што гэта нібы адзіная Расея - таксама зьяўляецца каланіяльным стварэньнем. І можа быць, найболей зьдзіўляе, тое, што гіганцкая армія, якая павінна сьцерагчы зьяднанасьць гэтай імперыі, прайграе ў адкрытым баі з некалькітысячным войскам вольнай Чачэніі. Амерыканцы дасканала ведаюць, што павінен адбыцца распад Расейскай Федэрацыі, але хочуць яго максімальна аддаліць у часе - нават калі б гэта сталася коштам зьнішчэньня нашага народу. Дзеля гэтага абуджаюць у Расеі вялікадзяржаўныя амбіцыі. Усталёўваюць яе ў ролі жандара на абшары былога СССР. Амерыканцы думаюць, што слабая расейская імперыя лепш, чым хаос малых дзяржаваў, якія прагнуць некай там вольнасьці. Не разумеюць, што спрыяючы аднаўленьню новага СССР, яны толькі прысьпешваюць яго распад.

...Ведаеш, я часта размаўляю з расейскімі палоннымі...

***- Ты не баішся, што нехта з іх можа цябе забіць?***

- Насуперак вонкаваму выгляду, гэта выключна "трусьлівая" нацыя. Адважныя толькі тады, калі п'яныя. Я прашу іх, каб высьветлілі, хто зьяўляецца прэзідэнтам Расеі, бо Джахар ня ведае з кім весьці перамовы, калі б на гэта рашыўся. Робяць вялікія вочы ад зьдзіўленьня і кажуць, што гэта Ельцын. Тлумачу, што Ельцын зьяўляецца кіраўніком усёй Расейскай Федэрацыі, а значыць таксама і федэратыўных рэспублік... Кожная з іх мае свайго кіраўніка. І мы іх прызнаём. Толькі расейская рэспубліка ня мае ні свайго ўраду, ні свайго прэзідэнта. Быццам увогуле не існуе. Дык што гэта за федэрацыя? Але яны кажуць, што гэта ўсё Расея.



Расейцы "зачышчаюць" мясцовасьць.

Ізноў кажуць пра землі іншых народаў, нібы пра сваю уласнасьць. Не ўсьведамляюць, што тая эпоха ўжо скончылася. Нацыі Расейскай Федэрацыі хочуць быць самі ў сябе гаспадарамі. Многія з іх рана ці позна знойдуць сваю ўласную дарогу да незалежнасьці. Бо нідзе не запісана, што яны павінны трываць вечна ў васальнай залежнасьці ад Масквы. Нават Сібір, якую ўвесь час лічылі калоніяй, адчувае сваю культурную асобнасьць. Калі гэты працэс наступіць, Расея скароціцца да абшару, на якім, магчыма, яна ўрэшце будзе здольная вынікова гаспадарыць, а пакуль адбываецца брудная забойства, пад якім падпісваецца Захад. Бо гэтак расейцы ўспрынялі рашэньне аб прыняцьці іх ў Савет Эўропы амаль адразу пасьля таго, як яны зьнішчылі Первамайскае.

***- Гэта, напэўна, свайго роду дазвол для Расеі на такую форму вырашэньня яе "унутраных праблемаў"?***

- Гэтая вайна паказвае, што Расея надалей застаецца той самай крывавай Расеяй. Калі маеце сумленьне, то як можаце глядзець на гэтае бясконцае злачынства. У Грозным хацелі забіць нават нашу памяць: спалілі зборы нашай галоўнай бібліятэкі. Нас забіваюць зброяй, якую ствараюць за грошы Амерыкі.

***- Гэта толькі твае сьпекуляцыі.***

- Джахар паказваў мне дасягненьні нашых службаў. Зрэшты, разьведка ЗША добра ведае, на што яны прызначаныя. Я ня быў бы зьдзіўлены, калі б аказалася, што амерыканскія службы спецыяльна перадаюць інфармацыю пра нас расейскай службе бясьпекі. Напэўна, амерыканцы не палічылі б за дрэннае, калі б гэтыя зьвесткі паслужылі рускім дзеля намеру забіць Джахара. Нам кажуць пра маральнасьць, называюць мяне "тэрарыстам" і адначасна даюць "маральна чыстыя" грошы на нашае вынішчэньне.

***- Але ж ты напаў на шпіталь у Будзёнаўску?***

- Нашай мэтай была Масква. Але мы вымушаны былі прыняць бой у Будзёнаўску. Я меў шмат параненых. Вырашыў перавезьці іх у шпіталь. Толькі там аддаў загад, што будзем бараніцца ў гэтым будынку. Ён займаў зручнае становішча.

***- Твая аперацыя была адказам на сьмерць тваёй старэйшай сястры?***

- Цела Галімат было так зьнявечана, што мы не маглі яе пазнаць. Разам з ёй загінулі дзеці іншых членаў маёй сям'і. Бомба ўпала на дом. Такі наш лёс. Паміраньне. Яе сьмерць глыбока ўнутры мяне. Але гэта не мая прыватная вайна. Я салдат. Джахар сказаў, што трэба страсянуць расейцаў так, каб яны на ўласнай скуры адчулі той боль, які робяць нам. Тут у сярэдзіне мінулага году яны рабіліся штораз больш азьвярэлымі. Вынішчалі цэлыя вёскі . Масава забівалі людзей. Сьвет гэта дазваляў. Мы павінны былі спыніць гэта вынішчэньне. Мэта маёй аперацыі была дасягнута.

***- Ты кажаш, што маеш чыстае сумленьне. Але тады загінулі нявінныя людзі.***

- Я гатовы стаць перад міжнародным трыбуналам, але разам з тымі, хто распаліў гэтую вайну. Няхай трыбунал вызначыць меру віны і адказнасьці.

***- У час рашаючай хвіліны ў Будзёнаўску, калі з табой зьвязаўся прэм'ер Чарнамырдзін і ты чытаў яму тэкст пагадненьня, раптам перарваўся сувязь...***

- Я тады сказаў: "Як можна жыць у Расеі, калі ў гэтай краіне нават прэм'ер ня мае надзейнага тэлефону". Праз чатыры гадзіны зноў пазванілі. Ён мне кажа, што выдаў распараджэньне аб спыненьні агню, а тут забягае ад'ютант з паведамленьнем, што на нас зноў нападаюць. Я пытаю ў Чарнамырдзіна, як можна яму верыць, калі звычайныя салдаты яго ня слухаюць. Ён сказаў, што гэта правакацыя.

***- Ты верыў, што тады дойдзе да заканчэньня вайны?***

- Гэта мне абяцаў прэм'ер ураду. Яго словы чуў увесь сьвет. Думаю, што ён якраз непакоіўся пра лёс заложнікаў. А потым усё пачалося спачатку. Я зразумеў, што Расея хоча нас біялагічна вынішчыць. Усю нацыю.

***- Калі Ельцын адважыцца размаўляць з Дудаевым, як ты думаеш, ці ў стане яны дамовіцца?***

- Ельцын - гэта алкаголік, за якім увесь час павінны назіраць лекары, каб той зашмат не напіўся. Чаго вартае слова такога чалавека? Я ўжо ведаю, што нельга верыць расейцам. Яны разумеюць толькі мову сілы... Легальны падпольны ўрад Польшчы згадзіўся ў 1945 годзе спатканца з расейцамі. Яго членаў вывезьлі ў Маскву. Там яны былі названы бандытамі. Джахар занадта добра ведае іх асабіста, каб мець нейкія ілюзіі. Ня думаю, каб ён паверыў у іх добрыя намеры.

***- Ты не баішся, што расейцы могуць ужыць супраць вас атамную зброю?***

- Яны ўжо рыхтаваліся. Нават зрабілі два квазі-атамныя выбухі на тэрыторыі Чачні. Але гэта ня зьменіць ходу падзей. Такі лёс нашага народу, мы прыгавораныя спадзявацца на саміх сябе ў барацьбе за тое, што для нас найважнейшае. Мэта Расеі таксама выразна акрэсьленая - біялагічнае вынішчэньне нашага народу пры ціхай згодзе заходніх палітыкаў.

***- Ты баішся сьмерці?***

- Кожны рана ці позна памрэ. Але для нас няма пытаньня "калі?". Ёсьць толькі пытаньне "як?". Самая ганаровая сьмерць для мужчыны - гэта памерці, змагаючыся за вольную Бацькаўшчыну. Я быў сьведкам сьмерці маіх салдатаў. Кожны дзень бачу, як гінуць нявінныя людзі. Сёньня мы адкапалі з-пад руінаў целы адной сям'і. Шэсьць асобаў. Гэтая вось пляма на мундзіры - кроў дзяўчынкі. Я яе вынес на руках. Толькі яна і выжыла. Ёй адарвала нагу. Мае пяць гадкоў.

***- Столькі ж, колькі і твой сын Іслам. Ты глядзіш на забойствы. Забіваеш сам. Ці не зьмяніла гэта цябе?***

- Відаць,такі мой лёс. Прымаю яго з пакорай, бяз скаргі. Але з паднятай галавой. Ты памятаеш палаючы Грозны? Я тое відовішча не забуду да канца жыцьця. Калі пакідаў у Грозным свой дом, то сам яго падпаліў. З усім у сярэдзіне. Не хацеў, каб рускія зглумілі. Цяпер нядаўна мы адбілі калону машын, нагружаных даверху скрадзенымі рэчамі. Спытаў палоннага: "Гэта вы так змагаецеся?" А ён адказвае: "На нашым месцы вы рабілі б тое самае". Усюды, куды я прыйду, ёсьць цяпер мой дом, таму што чачэнцы вельмі гасьцінныя людзі. У кожным месцы мяне прымуць. А калі скончыцца вайна, адбудуем свае вёскі і гарады. Мы не баімся працы. Тут ёсьць вёскі, якія за апошні год па некалькі разоў былі зраўнаныя з зямлёй. Але людзі вярталіся і пачыналі ўсё спачатку. За сто гадоў акупацыі некаторыя аулы рускія зьнішчалі па дзесяць разоў. Але яны працягваюць існаваць. Гэтую зямлю мы не прамяняем ні на якую іншую.

## НАШ КАЛЯНДАР

**31 траўня**

**1800 г.** Памёр Міхал Казімір Агінскі, гетман ВКЛ, уладальнік Слонімскага Староства, славуты мецэнат, кампазітар і паэт.

**1991 г.** У Іўі было ўтворана Згуртаваньне татараў-мусульманаў на Беларусі "Аль-Кітаб".

**1 чэрвеня**

**1434 г.** Памёр Ягайла, заснавальнік славутай каралеўскай дынасты, знакамітая постаць беларускай і польскай сярэднявечнай гісторыі.

**1916 г.** У Вільні быў заснаваны Беларускі клуб - асьветніцкі музычна-драматычны гурток.

**2 чэрвеня**

**1867 г.** Нарадзіўся Мітрафан Доўнар-Запольскі, знакаміты гісторык, этнограф, фалькларыст і літаратуразнавец. Аўтар канцэптуальнага грунтоўнага дасьледаваньня "Гісторыя Беларусі" (забаронена да выданьня ў 1928 г., выйшла ў 1994 г.).

**3 чэрвеня**

**1786 г.** У мястэчку Жалудок (цяпер - Шчучынскі раён) нарадзіўся Канстаньцін Тызенгаўз, асьветнік і прыродазнавец.

**1896 г.** У Любчы нарадзіўся Павел Каравайчык, пісьменьнік і публіцыст. Расстраляны ў 1937 годзе.

**5 чэрвеня**

**1911 г.** У вёсцы Мінкі (на Смаргоншчыне) нарадзіўся Аляксандр Шыдлоўскі, выбітны дзеяч культуры, кампазітар.

**6 чэрвеня**

**1806 г.** У маёнтку Парэчча Слонімскага павету нарадзіўся Міхал Валовіч, удзельнік вызвольнага руху (павешаны ў Гародні ў 1833 г.)

**1841 г.** У маёнтку Мількаўшчына Гарадзенскага павету нарадзілася Эліза Ажэшка (дзявочае прозьвішча - Паўлоўская), вядомая пісьменьніца.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

